3 ЖНІЎНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№86 (617) КОШТ СВАБОДНЫ




# Без лідэра

## VI з'езд БНФ раскалоў рух на дзве часткі




Лявон Баршчэўскі (злева) і Сяргей Папкоў (справа) вырашылі не ўваходзіць у новае кіраўніцтва БНФ

Алесь ШМЯЛЁЎ

**З'езд БНФ, які адбыўся 31 ліпеня — 1 жніўня, раскалоў арганізацыю напалам і не здолеў вырашыць спрэчныя пытанні. Паўнамоцтвы Пазьняка і «апазіцыйнага» сойма працягнутыя да восені.**

Тое, што падчас шостага з'езда БНФ разгарацца нежартоўныя спрэчкі па асобах, было зразумела даўно. Надта ўжо чакалі дзень 31 ліпеня, каб выплюхнуць сваю энергію болей за 320 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў краіны. Першы дзень з'езда толькі пацвердзіў прадчуванні. «Пробны камень» закінуў выконваючы абавязкі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі. У сваім выступе, які прагучаў пасля зачытвання пасланьня Пазьняка, ён выказаў жорсткую крытыку і прэтэнзіі ў адрас Сяргея Папкова (пратэжэ Пазьняка на Беларусі) і самога старшыні. Баршчэўскі абвінавяціў іх у страце пачуцця рэальнасці, зрыве супрацоўніцтва з іншымі дэмакратычнымі сіламі і ў стварэнні канфліктных сітуацыяў з дробных пытанняў.

Спрэчкі працягваліся на ўзроўні рэгіянальных кіраўнікоў і шэраговых дэлегатаў з'езда. Падчас выступу кіраўніка БНФ па Магілёўскай вобласці Анатоля Фёдарава прыхільнікі Пазьняка ўзарваліся крыкамі «Ганьба!». Эмоцыі білі праз край, і па падтрымцы залы здавалася, што перавага ў «лідэра нацыі», як называюць Зянона Пазьняка ў Фронце, складае прыкладна 60 працэнтаў.

У кулуарах прыхільнікі Вінцука Вячоркі, асноўнага апанента Пазьняка, загаварылі аб тым, ці патрэбнае пры такім раскладзе вылучэнне Вячоркі на пасаду старшыні. Але за ноч у штабе намесніка старшыні БНФ Вячоркі добра папрацавалі і, аддаўшы прыхільнікам Пазьняка ініцыятыву па пытанні, каго ж першага выбіраць, старшыню ці сойм, распачалі так званую атаку «веерам». ►

Заканчэнне на стар.3

## Мы папрасілі прадстаўнікоў двух бакоў, якія сапернічаюць паміж сабою, пракаментаваць вынікі з'езда БНФ



**Юры ХАДЫКА, намеснік старшыні БНФ**

— Мы пазбегнулі расколу мінімум яшчэ на 3 месяцы. Гэтае кіраўніцтва з-за мяжы ўсё ж прывяло да цяперашняга стану. А вынікі з'езда — безумоўная перамога рэфарматарскага крыла ў БНФ. Толькі дзякуючы нашай перамозе раскол не адбудзецца. А калі пэўныя асобы, напрыклад, Пазьняк, сыдуць, бразнуўшы дзвярыма — ніхто не пашкадуе.



**Вінцук ВЯЧОРКА, намеснік старшыні БНФ**

— Ну гэта, безумоўна, перамога Беларусі, перамога адраджэнскага руху. Я задаволены такім сыходам галасавання, увосень мы паспрабуем упэўніць у нашай правеце яшчэ большую колькасць дэлегатаў.



**Зянон ПАЗЬНЯК, лідэр БНФ**

— Ну, што мяне хвалюе, што я выйграў з перавагаю толькі ў 4 галасы. Але ж я перамог. Цяпер увосень даабярэм мне намеснікаў, сойм — і будзем працаваць. А з тым, чаму так шмат галасавала супраць мяне, — будзем разбірацца.

**Артыкул Мікалая Халезіна з аналізам сітуацыі вакол БНФ чытайце ў наступным нумары НАВІНАЎ**

# Избранник немыслимой боли...

## 31 июля умер выдающийся поэт Вениамин Блаженный



**Он умер в больнице от кардиосклероза на 78 году жизни.**

Последними стихами, написанными поэтом, стали эти строчки:

***Меня похоронят***
***под звуки бравурных маршей.***
***И каждый трубач***
***возвестит о потешной судьбе.***
***И каждый ребенок,***
***объевшийся манною кашей,***
***Подыгрывать будет***
***оркестру на детской трубе...***

Блаженный — это не псевдоним, а имя некоей сущности, некоей частицы вечности жизни..., — говорил сам Вениамин Блаженный, чья настоящая фамилия была Айзенштадт. Поэт родился в 1921 году в белорусском местечке под Оршей в нищей еврейской семье. Бедствовал. Бродяжничал. 23 года трудился в инвалидной артели, ибо официально был признан «убогим» с соответствующим заключением ВТЭКа. Был помещен в сумасшедший дом, где полностью подорвал здоровье, но не утратил огромной духовной мощи. Состоял в переписке с Пастернаком, Шкловским, Тарковским.

В советские времена о публикации глубоко трагических и мистико-религиозных стихов В.Блаженного не могло быть и речи. Однако выдающийся поэт-современник Борис Пастернак, который Айзенштадта собственно и открыл, знал эти стихи в рукописях и высочайшим образом оценивал их в переписке с поэтом-изгоем. Боль воспринималась этим поэтом как высшая отмеченность и даже как миссия. «Я — избранник немыслимой боли», — заявлял он с одической гордыней.

Большую часть своей жизни поэт прожил в Минске с супругой, которую любил до самозабвения. Вениамин Блаженный пережил ее лишь на несколько недель. Невыносимых для него недель. Когда супруга умерла, друзья сказали: «Без нее Вениамин долго не проживет».

Они познакомились во время войны, – молодой человек и девушка с ампутированными после ранения ногами. Нужда и бесконечные бытовые проблемы не сломили дух этих людей, – их любовь стала легендой.

Когда Вениамин Блаженный разговаривал или читал свои стихи, – он прикрывал глаза. И оттого казалось, что его устами говорила вечность.

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Пракуратура вывучае газеты

Журналістка Вольга Тарасевіч учора была выкліканая ў Мінскую гарадскую пракуратуру ў якасці сведкі па дазнанні. У «Белорусской газете», дзе ў свой час працавала В.Тарасевіч, у нумары за 1 лютага было надрукаванае інтэрв'ю з вядомым расійскім прадпрымальнікам Канстанцінам Баравым. У інтэрв'ю, у прыватнасці, было сказана, што «калі беларуская апазіцыя вырашыць стварыць партызанскі атрад імя Валерыя Навадворскай, то я буду яго фінансаваць». Як стала вядома рэдакцыі, старшыня Беларускай патрыятычнай партыі, адыёзны палкоўнік Анатоль Баранкевіч накіраваў гэты артыкул у Пракуратуры Беларусі і Расіі з патрабаваннем узбудзіць крымінальную справу па факце «спробы захопу ўлады ўзброеным шляхам». На дадзены момант абедзве пракуратуры праводзяць дазнанне. Па нашай інфармацыі, у Маскве на допыт быў выкліканы сам К.Баравы, які заявіў, што тая фраза была толькі жартам.

### Катастрофа ў Індыі

Буйная чыгуначная катастрофа адбылася ўчора зранку ў індыйскім штаце Заходняя Бенгалія. У выніку сутыкнення двух цягнікоў у раёне станцыі Гайсан загінула, па розных ацэнках, ад 250 да 500 чалавек. На момант падпісання нумара ў друк выратавальнікі яшчэ працягвалі пошук целаў ахвяраў. Пацярпела не менш за 1.000 чалавек. Выратавальнікі паведамілі, што абодва лакаматывы і 14 вагонаў былі цалкам знішчаныя. Большасць загінулых – індыйскія вайскоўцы, якія ехалі ў адным з саставаў. Індыя вядомая сваёй буйнейшай у свеце сеткай аднакалейных чыгунак. Можа, таму ў гэтай краіне даволі часта здараюцца чыгуначныя катастрофы з дзесяткамі і нават сотнямі ахвяраў.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



## НАДВОР'Е




**3 жніўня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер паўночна-ўсходні, 5—10 м/сек. **4 жніўня** — пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі па **Магілёўскай** і **Гомельскай** абласцях месцамі кароткачасовыя дажджы, вецер усходні, 5—10 м/сек. Тэмпература ноччу 9—14.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

АЎТОРАК



З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ

## Рэпетыцыя аншлюса

На мінулым тыдні чатыры беларускія вобласці — Віцебская, Магілёўская, Гомельская, Мінская — далучыліся да «Цэнтральнай Расіі». Пакуль што персанальным складам абласных вертыкаляў. Урачыстасці, зразумела, адбываліся на расійскай тэрыторыі, ў Хімках (Масква) на канферэнцыі «Цэнтральнай Расіі». Брэсцкая і Гродзенская вобласці да гэтай акцыі не спрычыніліся. Можа таму, што не мяжуюць з Расіяй. Але цэнтральная вобласць Беларусі — Мінская — таксама не мяжуе, аднак у Хімках была. Магчыма, Брэст і Гродна будуць гасцяваць у «Цэнтральнай Літве» ці «Цэнтральнай Украіне», сведчачы шматвектарнасць палітыкі нашага ўрада. Самае цікаўнае ў гэтым паспешлівым далучэнні да «Цэнтральнай Расіі» — папярэдняя таямнічасць планаў. Нецяжка ўявіць, якая немалая праца папярэднічала урачыстасцям, колькі было перамоваў, тэлефонных узгадненняў, абмеркаванняў, пакуль дэлегацыі нашых усходніх абласцей і горада-героя Мінска не выехалі ў цэнтр Расіі.

Хімкінскі сход, хоць там не абышлі ўвагай развіццё эканамічнага супрацоўніцтва паміж расійскімі і беларускімі рэгіёнамі, замілавана ўглядаўся ў блізкую перспектыву палітычнага аб'яднання дзвюх дзяржаваў на падмурку таго праекта саюзнага дагавора, які выставіў Крамлю беларускі бок. Здаецца, менавіта дзеля гэтага нашыя «ўсходнікі» і выправіліся ў Маскву. Маруднасць, з якой прэзідэнт Ельцын падыходзіць да падпісання вырашальнага для лёсу вышэйшых чыноў РБ дакументаў, відочна раздражняе іх галоўнага аўтара, сп. А.Лукашэнку, тым больш, што Масква не выказвае разумення важнасці ўтварэння саюза з адзінымі прэзідэнтам і віцэ-прэзідэнтам. Дэсант беларускіх «губернатараў» мусіў шукаць падтрымку на ўзроўні, так мовіць, народнай дыпламатыі, ініцыятывы знізу, ад пластоў чыноўніцтва.

Тэлебачанне працытавала некаторыя палымяныя выказванні пра вечную і святую любоў паміж рускімі і беларусамі. Гэта аднак не паўплывала на змену назвы рэгіянальнага аб'яднання. «Цэнтральная Расія» засталася расійскай, але ўжо з чатырма беларускімі абласцямі ў сваім складзе. Тое самае, можна не сумнявацца, чакае ўсю Беларусь у тым «братнім» саюзе, утварэнне якога Ельцын і Лукашэнка абяцаюць замацаваць сваімі подпісамі ў верасні. Першая рэпетыцыя аншлюса адбылася.

ФОТАФАКТ



Фота Ул.ШЛАПАКА

Прощание с **Вениамином Блаженным**

«Я любил эту землю, как любят слепцы и калеки,
Как затравленный зверь,
Как примятая в поле трава».

СУДОВЫ ПРАЦЭС

## Падтрымаць Клімава прыйшлі дэпутаты

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

**Учора ў Ленінскім райсудзе Мінска аднавіўся разгляд крымінальнай справы дэпутата ВС Андрэя Клімава. Нагадаем, што вядомы беларускі бізнесмен і апазіцыйны палітык знаходзіцца ў турме ўжо амаль паўтара года. Улады абвінавачваюць Клімава ў фінансавых махінацыях і злоўжываннях.**

У суд, дзе адбываецца працэс над Андрэем Клімавым, учора прыйшло каля 20 дэпутатаў ВС 13-га склікання на чале з першым намеснікам старшыні Віктарам Ганчаром. Такім чынам парламентарыі дэманстравалі сваю салідарнасць са зняволеным калегам. Разгляд справы А.Клімава пачаўся яшчэ 22 ліпеня, але суддзя Вера Тупік дала галоўнаму падсуднаму 10 дзён для азнаямлення з усімі матэрыяламі папярэдняга следства. Гэтыя матэрыялы сабраныя ў 33 тамы і ўяўляюць сабою 17 тысяч старонак машынапіснага тэксту. Натуральна, што за такі кароткі час проста фізічна не ў стане не тое што пачытаць, а нават перагартаць гэты аб'ём дакументаў. Таму сам Андрэй Клімаў і ягоныя абаронцы хадайнічалі перад судом даць адзін месяц для поўнага азнаямлення з матэрыяламі справы. Асабліва бліскучай была прамова грамадскага абаронцы Клімава Гары Паганяйлы. Вядомы адвакат прасіў суддзю Тупік вызваліць А.Клімава з-пад варты, паколькі ён мае дэпутацкі статус недатыкальнасці, накіраваць ягоную справу на дадатковае расследаванне. Іншыя ж абаронцы дэпутата прасілі суд вызваліць Клімава з-пад варты яшчэ і таму, што ў Андрэя вельмі кепскае здароўе. На момант здачы нумара ў друк судовы працэс працягваўся. ■

## На Статкевіча завялі крымінальную справу

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**28 ліпеня пракуратура горада Мінска ўзбудзіла крымінальную справу супраць лідэра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Міколы Статкевіча.**

Такім чынам улады ўсё ж вырашылі не абмяжоўвацца 10-сутачным арыштам, які быў вынесены Статкевічу раней, за арганізацыю акцыі пратэсту ў Дзень Незалежнасці 27 ліпеня. Справа заведзеная па артыкуле 186³ Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Арганізацыя групавых дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак», згодна з якім Статкевічу пагражае да трох гадоў зняволення. Дарэчы, некалькі месяцаў таму па гэтым жа артыкуле быў асуджаны Яўген Скочка, адзін з лідэраў «Маладога Фронту». БСДП(НГ) адразу ж выступіла з пратэстам супраць дзеянняў пракуратуры і лічыць, што справа ўзбуджаная па чыста палітычных матывах. ■

## Хутка пачнецца суд над Лявонавым

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

17 жніўня ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь пачнецца суд над былым міністрам сельскай гаспадаркі Васілём Лявонавым, які будзе праводзіць суддзя Чартовіч. Такое рашэнне было абвешчанае на вызначальнай камісіі Вярхоўнага суда ў мінулую пятніцу.

Нагадаем, Васіль Лявонаў быў абвінавачаны ў крадзяжы ў буйных памерах і хабарніцтве і ўтрымліваецца ў следчым ізалятары з сярэдзіны лістапада 1997 года. ■

АФІША

## Бесплатныя прававыя кансультацыі

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Мінскае гарадское грамадскае аб'яднанне «Прававая дапамога насельніцтву», дырэктарам якога з'яўляецца Алег Волчак, адчыніла грамадскую прыёмную па аказанні бясплатнай прававой дапамогі малазабяспечаным слаям насельніцтва (інвалідам, удзельнікам вайны, студэнтам, пенсіянерам).

Грамадская прыёмная прымае грамадзянаў па адрасе: Мінск, вул.Якуба Коласа, 45/1 кожны аўторак і чацвер. Папярэдні запіс па тэлефоне 239-31-67. ■

ПАРТЫІ

## Бывай, партыя!

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

У бліжэйшы час мінюст пачне ліквідаваць партыі і іншыя грамадскія аб'яднанні, што не прайшлі перарэгістрацыю.

У нядзелю скончыўся апошні тэрмін, калі грамадскія аб'яднанні маглі падаць дакументы ў міністэрства юстыцыі на перарэгістрацыю. Як паведамілі нам у міністэрстве юстыцыі, перарэгістравацца па-новай пажадалі 1.537 грамадскіх аб'яднанняў, ці 61% ад агульнай колькасці ўжо зарэгістраваных. Паводле дэкрэта прэзідэнта №2 ад 26 студзеня, усе грамадскія аб'яднанні, што не пройдуць перарэгістрацыю, будуць ліквідаваныя ў судовым парадку. Гэта правіла датычыць у тым ліку і палітычных партыяў.

На сённяшні дзень паспелі перарэгістравацца 5 партыяў – гэта Аб'яднаная грамадзянскай партыя, Партыя працы і справядлівасці, жаночая партыя «Надзея», Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі і Партыя камуністаў беларуская. У працэсе разгляду дакументаў знаходзяцца яшчэ 18 партыяў – БНФ, БСДП (Народная Грамада), Партыя здаровага сэнсу, Аграрная партыя, Хрысціянска-дэмакратычны саюз, Камуністычная партыя Беларусі, Беларуская экалагічная партыя «зялёных» і іншыя.

17 партыяў перарэгістрацыю не прайшлі, у тым ліку Славянскі Сабор «Белая Русь». ■

ДЗВЕ ЦЫТАТЫ

**Ведь в нашей работе есть и другая, может, даже более важная сторона – чтоб в результате ее ни один невиновный не пострадал.**

*Генеральный прокурор Олег БОЖЕЛКО*
*«Рэспубліка», 30 июля 1999г.*

**Бой был коротким. А потом**
**глушили водку ледяную,**
**и выковыривал ножом**
**из-под ногтей я кровь чужую.**

*Семен ГУДЗЕНКО*
*«Перед атакой», из сборника «Во весь голос»*

## Зноў падымуць мінімальны заробак?

**Рыгор БУЯН**

Кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў прапануе ўраду з 1 верасня павысіць тарыфную стаўку 1-га разраду і мінімальны заробак з улікам росту спажывецкіх цэнаў. Абмежаванні ў росце зарплаты павінны быць знятыя, лічаць у ФПБ. Цікава, што прапановы ФПБ прагучалі аднačасова з заявай старшыні праўлення Нацбанка Пятра Пракаповіча аб намеры павысіць мінімальны заробак. Праўда, пра памеры новай «мінімалкі» і час яе павышэння першы банкір Беларусі пакуль не паведаміў. Але гэта неістотна. Важна іншае: робячы добрую міну пры дрэннай гульні, ФПБ па-ранейшаму ва ўсім падыгрывае рэжыму, выступаючы ў ролі тормаза рабочага руху. ■

## Прэзідэнцкі картэж трапіў у аварыю

**Рыгор БУЯН**

29 ліпеня ўвечары картэж Аляксандра Лукашэнкі «адзначыўся» ўдзелам у сур'ёзнай аўтамабільнай аварыі. Тры аўтамабілі «Джып» і машыны суправаджэння вярталіся ў Мінск з Гродна, дзе Лукашэнка знаёміўся з ходам уборкі ўраджаю. Варта адзначыць, што кіраўніка дзяржавы ў машыне не было, ён вярнуўся ў Мінск на верталёце. На сустрэчную паласу выехаў аўтамабіль, які ішоў на абгон. Галоўны «Джып», аснашчаны спецыяльным прыстасаваннем, разрэзаў надвое сустрэчную аўтамашыну. Кіроўца і яго спадарожнік загінулі. Пацярпелі таксама і супрацоўнікі ДАІ. Засталося пытанне: ці мае права прэзідэнцкі картэж імчацца на вялікай хуткасці па трасе, калі кіраўнік дзяржавы не знаходзіцца ў машыне? ■

## Байкот дэкрэту аб працоўнай дысцыпліне

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН**

Каардынацыйны савет Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) прыняў заяву ў сувязі з падпісаннем Аляксандрам Лукашэнкам дэкрэта аб дадатковых захадах па ўдасканальванні працоўных адносінаў, узмацненні працоўнай і выканаўчай дысцыпліны. Аўтары заявы заклікаюць усіх грамадзянаў, працуючых па бестэрміновым працоўным дагаворы, катэгарычна адмаўляцца ад падпісання кантрактаў, як гэта прадугледжана дэкрэтам. БКДП таксама заклікае актывістаў прафсаюзнага руху ўключыцца ў працэс падрыхтоўкі масавых акцыяў пратэсту наконт прыняцця дэкрэта.

У склад БКДП уваходзяць пяць незалежных прафсаюзных арганізацыяў — Свабодны прафсаюз Беларускі, Свабодны прафсаюз металістаў, Беларускі незалежны прафсаюз (г.Салігорск), Дэмакратычны прафсаюз транспартнікаў, а таксама прафсаюз педагогаў і медыкаў «Прызванне». ■

## Гараць лясы і тарфянікі

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

Небывалая засуха стала адной з прычынаў узгарання лясоў і тарфянікаў у Віцебскай і Мінскай абласцях. На ўчарашні дзень найбольш складаная сітуацыя была ў Полацкім раёне. Паблізу вёскі Палата ва ўрочышчы Юловае гараць былыя торфараспрацоўкі на плошчы звыш 18 гектараў. Удалося лакалізаваць пажар у марошкавым заказніку паблізу вёскі Лонніца. У выніку, па словах спецыялістаў, сёлета на плошчы 35 гектараў гэтая ягада не вырасце. Ва ўрочышчы Ельня Мёрскага раёна гарыць балота плошчай больш за 100 гектараў. Гэты пажар асабліва небяспечны для некалькіх вёсак, якія знаходзяцца па краях гэтага ўчастка. Мясцовыя жыхары вымушаныя дзяжурыць суткамі, апасаючыся, што полымя перакінецца на хаты. Наогул, настроі вяскоўцаў вельмі трывожныя. Падчас аднаго з пажараў у Мёрскім раёне, калі гарэў верхавы лес, людзі выходзілі з хатаў і маліліся.

Усе сілы пажарных кінутыя на тушэнне агню ў лясах і тарфяніках, акрамя таго, пажарныя дзяжураць на палях, дзе ідзе ўборка ўраджаю. Тэхнікі ледзьве хапае на тушэнне агню ў жылых дамах. На гарадскія сметнікі і звалкі, якія гараць паблізу Віцебска, проста не звяртаюць увагу, і ў горадзе пахне гарэлым. У мінулыя выхадныя не ўдалося выратаваць і сельскагаспадарчыя кармы ў калгасе Астроўна Бешанковіцкага раёна — згарэла 50 тон нарыхтаванага сена. Асноўная цяжкасць заключаецца ў тым, што паблізу няма вады для тушэння агню, і яе даводзіцца шукаць за два-тры кіламетры. У Мінскай вобласці гарыць лес на плошчы каля 80 гектараў у Маладзечанскім раёне і тарфянікі ў Барысаўскім раёне. ■

ТЭНДЭНЦЫІ

# Дэмаграфічны крызіс і адукацыя

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Дэмаграфічны крызіс у Беларусі пачатку 90-х пачаў сказвацца на сістэме адукацыі, сцвярджае міністр Васіль Стражаў.**

Гэтае змяненне ўжо адчула школа. Па словах міністра адукацыі В.Стражава, калі летась у школы ўпершыню прыйшло каля 174 тысяч вучняў, то 1 верасня гэтага года іх чакаецца не больш за 125 тысяч — менш амаль на трэць. У 2000/2001 годзе планка ўпадзе да 105 тысяч, а яшчэ праз год у школу прыйдзе не больш як 90-95 тысяч першакласнікаў. Адначасова будзе памяншацца і агульная колькасць школьнікаў – з 1 мільёна 600 тысяч (летась) да 1 мільёна 200 тысяч (2005-2007 год).

У такіх умовах натуральна, што беларускай школе трэба неяк змяняцца, прыстасоўвацца да новых патрабаванняў часу. Па-першае, ўжо не трэба будзе выдаткоўваць велізарныя сродкі на будаўніцтва новых школаў, трэба будзе толькі паднаўляць і рэстаўраваць старыя будынкі. Па-другое, трэба будзе скарачаць педагагічныя калектывы — нават тая колькасць настаўнікаў, што працуе сёння ў школах, хутка будзе непатрэбная. Па падліках спецыялістаў, скарачэнне колькасці навучэнцаў на 30% пацягне за сабой скарачэнне колькасці настаўнікаў на 25%. Як заявіў намеснік міністра адукацыі Генадзь Дылян, «такога мы дапусціць не можам». Таму ў перспектыве гэтая праблема будзе вырашацца так: памер настаўніцкай стаўкі будзе скарочаны – настаўніку спатрэбіцца працаваць не 18 гадзінаў у тыдзень, як цяпер, а 16. «Дзве гадзіны – гэта вельмі істотна,» – лічыць Г.Дылян.

Акрамя таго, максімальная колькасць вучняў у класе будзе скарочаная да 20 чалавек (з сённяшніх 30). Як сцвярджае намеснік міністра, менавіта 20 вучняў у класе – гэта найлепшы варыянт для паспяховага навучання.

Калі гэтыя захады не дапамогуць, то ў запасе міністэрства адукацыі ёсць яшчэ адзін варыянт. Генадзь Дылян сціпла называе яго «выкарыстанне рэзерву» – гэта азначае, што адбудзецца прымусовае звальненне 7,5-тысячнай арміі пенсіянераў-настаўнікаў.

Летась пачаўся перавод сярэдняй школы на 12-гадовае навучанне. Скончыцца гэты пераход праз 12 гадоў. Адначасова ў большасці ВНУ тэрмін навучання скароціцца на год і будзе складаць чатыры гады. Васіль Стражаў зазначыў, што такім чынам Беларусь ідзе «ў правільным накірунку», бо за апошні год парламент Украіны і ўрад Расіі прынялі адпаведныя дакументы аб пераходзе нацыянальных школаў таксама на 12-гадовы тэрмін навучання.

Усе ведаюць, што апошнія гады моладзь вельмі актыўна імкнецца атрымаць вышэйшую адукацыю. Акрамя звычайнай прагі да ведаў, сказваецца (у хлопцаў) і масавае нежаданне ісці ў армію. Адпаведна пры паступленні ва ўсе ВНУ Беларусі расце конкурс. Не застаюцца без працы і недзяржаўныя навучальныя ўстановы.

Але гэта цяпер. А вось калі сённяшнія першакласнікі стануць выпускнікамі, то і тут сітуацыя зменіцца, прагназуе Васіль Стражаў. «Я думаю, што праз дзесяць гадоў проста не будзе абітурыентаў, якія захочуць вучыцца ў недзяржаўных ВНУ, — кажа ён. – Таму вялікай і доўгатэрміновай перспектывы ў гэтых установаў я не бачу».

Па-ранейшаму замоўчваецца чыноўнікамі ад адукацыі праблема беларускамоўных класаў. Генадзь Дылян сцвярджае, што «становішча з беларускамоўнымі класамі і школамі сёлета будзе не горшым, чым летась». Аднак дакладных лічбаў – колькі тых класаў засталося ў Беларусі — намеснік міністра адукацыі пакуль не мае. Гэта стане вядома толькі ў верасні.

«Ніводным дакументам міністэрства адукацыі не давала распараджэння аб скарачэнні колькасці беларускамоўных класаў, — сцвярджае Г.Дылян. – Як правіла, рашэнне прымаецца па запытах бацькоў, і тут мы нічога не можам зрабіць, таму што гэтыя патрабаванні адпавядаюць Канстытуцыі». Нічога не скажаш, усё па законе. Аднак што робяць самі настаўнікі, хіба не пераконваюць яны бацькоў у тым, што іхняе адзінае і любае дзіця зможа атрымаць годную адукацыю і мо нават стаць вундэркіндам выключна ў рускамоўным класе? Такіх прыкладаў не адзін і не два. І наўрад ці скончацца такія выпадкі, нават калі мінадукацыі выпусціць адмысловую паперу з патрабаваннем ад настаўнікаў не агітаваць за «расійскі» варыянт.



Фота Ул.ШАПАКА

Міністр адукацыі Васіль Стражаў

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## Старавойтава «знайшлі» ў Оршы

Рыгор БУЯН

Былы старшыня АТ «Рассвет» Васіль Старавойтаў агульным этапам даставлены ў Оршу, дзе мусіць адбыць тэрмін заключэння. Гэтыя звесткі адвакат апальнага кіраўніка Вера Страмкоўская здабыла ў камітэце па выкананні пакаранняў пасля атрыманай інфармацыі, што ў Гомелі В.Старавойтаву стала дрэнна і яго месцазнаходжанне невядомае. З 25 ліпеня асуджаны да 2 гадоў зняволення В.Старавойтаў праходзіць двухтыднёвы каранцін.

Дагэтуль адвакат не мае ніякіх версіяў адносна раптоўнага этапіравання свайго падабароннага ў Оршу. Напачатку планавалася, што В.Старавойтаў будзе адбываць пакаранне ў мінскай калоніі №1, куды яго мусілі даставіць пад канвоем. Адправіць канвоем В.Старавойтаў прасіў і начальніка бабруйскага СІЗО: баяўся, што не вытрымае сэрца.

Аднак – па традыцыі – улады ў апошнюю хвіліну змянілі сваё рашэнне і этапам праз Віцебск, Гомель, у брудным спякотным вагоне разам з іншымі асуджанымі накіравалі Васіля Старавойтава ў Оршу. Па некаторых звестках, Васіль Канстанцінавіч адчувае сябе нармальна. Калі адвакат спрабавала высветліць месца знаходжання В.Старавойтава, то супрацоўнікі спецаддзела аршанскай калоніі пацвердзілі, што ён знаходзіцца ў іх, наадрэз адмовіўшы ў якой-небудзь інфармацыі пра здароўе былога старшыні.

У бліжэйшыя дні сваякі Васіля Канстанцінавіча збіраюцца звярнуцца да начальніка камітэта па выкананні пакаранняў з хадайніцтвам аб пераводзе В.Старавойтава ў Мінск, дзе, пры пагаршэнні здароўя, яму змаглі б аказаць кваліфікаваную медыцынскую дапамогу.

ПАРТЫІ

## Без лідэра

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

На пасаду старшыні, акрамя Вячоркі і Пазьняка, былі вылучаныя яшчэ пяць кандыдатаў, сярод якіх — Юры Хадыка, Лявон Баршчэўскі, Вячаслаў Сіўчык і іншыя. Пачаргова выступаючы і пераконваючы дэлегатаў, што варта аддаваць свае галасы супраць Пазьняка, яны прапаноўвалі свайм прыхільнікам галасаваць за Вінцука Вячорку і здымалі сваю кандыдатуру. Такая псіхалагічная атака дала патрэбныя вынікі, у зале пачаліся хістанні, і, пакуль працавала падліковая камісія, ніхто не мог прадказаць вынікі галасавання.

У мёртвай цішыні залы старшыня падліковай камісіі абвясціў: Вячорка: «за» — 152, «супраць» — 160; Пазьняк: «за» — 156, «супраць» — 156. Патрэбных 161 «за» не набраў ніхто. У лагеры Пазьняка — шок, у лагеры Вячоркі— адпаведна, весялосць. Раз-пораз у зале раздаюцца выкрыкі прыхільнікаў Пазьняка: «Што вы нарабілі, фашысты!» Апошнім з'ездам сцвярджае вынікі выбараў старшыні і прызначае другую сесію з'езда праз два месяцы. Паўнамоцтвы цяперашняга сойма, старшыні і намеснікаў працягнуцца. Аднак такі вынік галасавання нарадзіў новую інтрыгу. Справа ў тым, што кожны з бакоў зразумеў вынікі галасавання па-свойму. Больш за тое, гэтая супярэчнасць закладзеная ў статутных дакументах Фронту. Як аказалася, Зянон Пазьняк лічыць, што для перамогі дастаткова простай большасці галасоў, і больш у ніякіх выбарах старшыні ўдзельнічаць не збіраецца, бо лічыць сябе пераможцам. Наконт восеньскага з'езда ён выказаўся так: «Ну, абярэм намеснікаў мне, сойм — і ўсё». У сваю чаргу, Вячорка і іншыя ўпэўненыя, што лідэра з'езд не абраў, і ўсё вырашыцца толькі праз два месяцы. Сакратар управы Анатоль Крывар паведаміў НАВІНАМ, што ў статуце БНФ не пазначана, пры якіх умовах абвяшчаецца перамога. Сітуацыя тупіковая. Пяць папярэдніх з'ездаў Зянону Пазьняку не было альтэрнатывы, а пры яе з'яўленні высвятлілася недасканаласць фронтаўскай «канстытуцыі».

Працяг «спектакля» прызначаны на першую дэкаду кастрычніка. А ці адбудзецца ён — вялікае пытанне?

НАЗІРАЛЬНІК

## Хамства

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Апошнім часам занадта часта жыццё стала сутыкаць мяне твар да твару з доблеснымі ахоўнікамі правапарадку. Ужо было крыху аслабла пачуццё злосці да іх, што ўзнікла, калі сам знаходзіўся за кратамі. Незразумела, чаму я, і такія, як я, сталі ім косткай упоперак горла.

Называючы і робячы нас злачынцамі, яны выдатна разумеюць, што калі б усе злачынцы былі такімі, то міліцыя ўвогуле сядзела б без працы, а то і зусім не была б патрэбная.

**1. Сустрэча**

У форме ён глядзеўся лепш. Зараз нават смешна было глядзець — маленькі, крыху таўставаты, з маленькімі кропкамі-вачыма. Мы спыніліся насупраць адзін аднаго і чакалі працягу. У зоне ён быў маім першым атрадным і прынёс мне найбольш пакутаў. Змаганне з ім было мэтай існавання ўлетку 98-га. І вось ён тут, адзін і безабаронны. Зараз ён вучыцца ў школе КДБ, рыхтуецца выкрываць дыверсіі. Алеў момант сустрэчы ён зблытаўся і пачаў апраўдвацца. Днём пазней, калі я і былы лейтэнант Жэнеўскі сустрэліся ізноў, ён быў не адзін і паспрабаваў распачаць бойку. Не, шаноўны, я не паддамся на тваё правакацыі. Проста праз пэўны час ты непазбежна апынешся там, дзе я быў паўтара года.

**2. Трубка**

Цікава, калі чалавек падымае на вуліцы фальшывую банкноту, не ведаючы аб яе несапраўднасці, а пасля спрабуе ёй разлічыцца ў краме — ці можна яго за гэта судзіць? А ці можна чалавека рабіць вінаватым з-за таго, што яго ная прапіска знаходзіцца ў стадыі падрыхтоўкі, і ён часова, хай сабе на 2 тыдні — бомж?

І як можна вініць чалавека ў тым, што ён адарваў трубку ад тэлефоннага аўтамата, пры тым, што чалавек нават у думках такога не дапускаў?

Спадар міліцыянт, якія ў вас былі доказы? Сведкі? Адбіткі пальцаў? Тое, што я а палове першай ніідзе пакуль не прапісаны ішоў па вуліцы — яшчэ не падстава, каб утрымліваць мяне ноч у камеры, а пасля прысуджваць штраф. Пры гэтым хаміць, пагражаць тым, што «зажмём пальцы в дверях, не только в этом признаешься!» Не прызнаюся. Таму, што не рабіў. Колькі такіх, як я, невінаватых, вы, спадар мент, зрабілі злачынцамі?

Бог пакарае вас. Калі-небудзь ваш сын сутыкнецца з тым жа тупым хамствам, яго зробяць злачынцам, а ўсе вашыя скаргі застануцца непачутымі.

**3. Парк**

Спадар капітан, з якіх гэта часоў у парку адпачынку дапускаюць вырабарачна? Я, канешне, разумею, што побач палац прэзідэнта, а ў ста метрах — натоўп дэманстрантаў. Але ж я быў проста з сябрам, і з жаданнем крыху адпачыць у цяньку. Дык за што ж вы нас рукамі па нырках?

І чаму, калі я паказаў вам пасведчанне журналіста, вы прапанавалі мне засунуць яго ў задніцу? Добра, вы не любіце журналістаў у прынцыпе, але ж можна было не хаміць так, не ганьбіць пагоны. Паверце, я б зразумеў. А так – я канчаткова згубіў павагу да вас. Слова міліцыянты — занадта прыгожа для вас.

ДЫЯГНАЗ

## ДЕРЬМОКРАТИЗАТОРЫ



Александр ПОТУПА

Господи, неужели главным памятником Президентуры станет-таки юбилейная тачка навоза у ступеней бывшего ЦК КПБ? Вызывающая ассоциацию со старым анекдотом про вождя племени, который на селекторном совещании с соплеменниками всегда оглашал две новости — плохую (осталось только дерьмо) и хорошую (дерьма много). Становится страшно, вдруг хорошая новость не доживет до следующего юбилея – из чего будем *перформансить новый кишкотворный памятник*?

Но я собирался о другом — о безопасности Родины.

Есть у нас *Краснознеленознаменный Лиозненско-Дроздовский имени Светлой Памяти Американского Воздушного Шара Совет Безопасности* с подконтрольными ему МВД, КГБ, прокуратурой, пограничными войсками и просто до зубов вооруженными силами. На территорию суверенной республики врывается отряд славянствующих боевиков, приступом берет деревню Николаевку, отбирает ее сам у себя и чинит в той деревне *многобезобразное насилие*. По сравнению с этим историческая посадка воздушного хулигана Руста на Красной площади — детсадовская шалость. Хотя до налета Басаева на Буденновск выходка сургутского «Беркута», конечно, не дотягивает. Пока.

Так вот захваченных с применением силы боевиков белорусские органы тут же преспокойно отпустили домой в братскую Россию. Задержали одного только *нового русо-белоруса*, который, скорее всего, лишь спонсировал бравых ребятушек и вряд ли самолично избивал белорусское простонародье. Очень странные и нежные органы нетрадиционной ориентации. Это во всем мире они правоохранительные. У нас — как бы *левоохранительные*, если говорить о красно-коричневых акциях (или *правонападательные*, имея в виду блестящую технику владения демократизаторами?).

В ходе трагической минской *радиопивной презентации* они не смогли спасти от смерти 53 человека. В Витебске — предотвратить столкновение взбесившейся «Мазды» со славянобазарной толпой, в результате чего было сбито 13 человек. Зато в связи с безобиднейшей демонстрацией по поводу 5-летия Президентуры эти же странные и нежные с помощью бессмысленных арестов пополнили на 53 человека ряды белорусских узников совести. За что могут получить особую благодарность «Международной амнистии». И получат — с пожизненным занесением в личные дела.

А правоохранять, понятное дело, некогда. Надо держать форпост России супротив NATO, обыскивать редакции газет, вести досье на всякого оппозиционного месье.

Мораль этого анекдота из жизни сумасшедшего дома — белорусов не жалко. Их надо бить везде и всем. Братьям во славянстве, своим ОМОНкратам, на худой конец — позволять убиваться самостоятельно. За пять лет Президентуры естественная убыль населения в Беларуси — разность между количеством смертей и рождений — составила примерно 200 тысяч человек. Это хороший итог для мирно выживающей страны, но и его можно улучшить. За счет безграничного *всепростонародного* доверия, например.

# Правительство и Куропаты

Наталья РАДИНА, Владимир ШЛАПАК (фото)

**Еще в 1989 году Советом министров БССР было принято постановление «Об увековечивании памяти жертв репрессий 1937—1941 гг. в лесном массиве Куропаты». Предполагалось впервые на территории СССР возвести памятник жертвам сталинского геноцида. Прошло 10 лет, но в Куропатах по-прежнему стоят лишь памятный знак, установленный БНФ «временно» в том же 1989 году, одинокие кресты, поставленные родственниками безвинно расстрелянных, да мраморная скамейка, установленная по инициативе Билла Клинтона во время его визита в Беларусь.**

Согласно тому постановлению СМ, к воплощению идеи привлекались министерство культуры БССР, Мингорисполком, существовавший тогда Госстрой, а также Союзы архитекторов и художников республики. Министерство культуры в том же году объявило конкурс на лучший проект памятника в Куропатах. Конкурс проводился гласно, предложения мог вносить каждый творческий человек. Жюри, председателем которого был известный белорусский художник Василь Шаранговичь, в начале программы еще не имело точного представления, что может достойно увековечить память репрессированных людей. Аналогов задуманному памятнику в СССР не было. Сравнивать было не с чем, приходилось искать идеальный вариант самим.




Камень с обещанием Совета министров РБ о возведении памятника жертвам репрессий

В первом туре участвовало 26 проектов. После второго тура их осталось два. Причина жестокой «чистки» заключалась в том, что абсолютное большинство поданых проектов отличались традиционной для былых десятилетий гигантоманией. Проектанты представляли себе на месте захоронения расстрелянных людей нечто подобное на Мамаев курган. Они не понимали, что Куропаты — это место, где лежат жертвы геноцида. Необходимо было почтить память погибших людей и дать оценку всему большевистскому тоталитаризму, который привел к трагической гибели миллионов людей. Монументальная скульптура могла лишь подчеркнуть жестокость тоталитарной «мясорубки».

Проекты двух групп, прошедшие конкурс, были выставлены во Дворце искусств и в Красном костеле в Минске. Первую группу возглавлял автор Хатынского мемориала Валентин Занкович, вторую — молодой архитектор Сергей Кузмичев. Но и эти проекты не удовлетворили строгое жюри. Оно пришло к единодушному мнению, что Куропаты должны стать необычным памятником. Появилась конкретная программа, подразумевающая каким должен быть памятный знак на месте захоронения репрессированных. Участниками следующего конкурса могли стать только люди с творческой квалификацией. То есть, было мало подать идею, необходимо было иметь способности ее реализовать.

Новые требования выражались в следующем. Теснота братских могил не допускала установку массивных памятников. Каждая могила должна была иметь свой памятный знак. Тут возникала новая проблема. Ведь если в братской могиле лежат православные, евреи, католики, мусульмане или атеисты, то каждому необходимо ставить свой памятный знак. Кроме того, жюри была запланирована аллея памяти известным репрессированным деятелям. Планировалось строительство межконфессиональной часовни. Допускалось строительство православной церкви и католического костела. Лесной массив необходимо было обнести оградой с элементами художественной пластики (ворота, калитки, фонари). Рядом предполагалось строительство автостоянки и павильонов для продажи памятной литературы. Так выглядело архитектурное решение на бумаге...



Временная памятная доска в Куропатах в честь жертв геноцида



Для вандалов не бывает святых мест: разрытая, замусоренная могила в 50 метрах от памятного камня

На деле оказалось много «но»... Возникли, конечно, материальные проблемы. Не был решен вопрос о статусе территории Куропат. Часть лесного массива принадлежит горисполкому, часть райисполкому. Кроме того, Куропаты надвое пересекает дорога, которую, в случае строительства памятника, необходимо отводить. Вместе с ней требуется смещать и газопровод. На все это требуются немалые затраты. Мингорисполком не был достаточно заинтересован в реализации проекта, не в его возможностях было осуществить то, что задумали архитекторы. Необходима была заинтересованность состоятельного хозяйственника и компетентного функционера. Такого не нашлось. Нет заинтересованности и у нынешнего руководства горисполкома. А государство, обязанное принять на себя необходимые затраты, устранилось, надеясь предать и Куропаты, и дело с установкой памятника полному забвению. Одновременно у нас находятся огромные средства на «ледовые» дворцы, крытые стадионы, различные «базары» и прочие праздники. Видимо, в «здоровом» теле высшего белорусского чиновничества (укрепляющего тело на новых кортах и стадионах) кроется больной дух равнодушия к бедствиям и горькой памяти своего народа? ■

ТВОРЧАСЦЬ

## Приоткрывшие дверь в следующий век

Татьяна НОВИКОВА

С 28 июля по 20 августа в Национальном Художественном музее проходит выставка «На рубеже столетий», где представлены работы девяти белорусских авторов. Ее кураторами выступили Константин Барабанов и главный хранитель музея Николай Пограновский. В девятку вошли разные по жанру авторы, такие, как Валерий Славук, Константин Селиханов, Дмитрий Суринович, Виктор Шилко. На экспозиции можно увидеть живопись и офорт, книжную графику и скульптуру, выполненные за последние десять лет. Выставка представляет не просто известных в художественной среде авторов, но и членов Союза художников, чьи работы хранятся в фондах Национального музея. Можно сказать, что экспозиция приурочена к юбилейной дате — шестидесятилетию музея. Официальное признание, таким образом, отворяет двери в XXI век, видимо, не только девяти авторам, но и тем, кто, посетив экспозицию, приобщится к ценностям нового столетия.

Николай Пограновский прокомментировал это так: *«Я выступаю куратором подбора работ. Безусловно, мой выбор субъективен. Если бы возможности галереи не были ограничены, я включил бы в этот ряд таких известных живописцев, как Анатолий Кузнецов, Сергей Кирющенко, и менее известных минской публике художников Константина Колодича из Бреста, Бориса Иванова и Анатолия Журавлева из Орши и других.*

*Я подбирал имена исходя из собственных пристрастий. Главное, что я ценю в художнике, это свобода и раскрепощенность. Как говорят, художник должен быть «отвязанным». Владение техникой, разумеется, важно, но у нас много хороших ремесленников, умеющих изящно рисовать. Те авторы, чьи работы Вы видите здесь, работают не на сегодняшний день, а на XXI век».*

Справедливость этого высказывания подтвердят или оспорят пристрастия публики в новом столетии — ждать осталось недолго. ■

КНІГАРНЯ

## Залатая сярэдзіна




**Іван Саверчанка. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі. Адраджэнне і ранняе барока. Мінск, 1998.**

«Aurea mediocritas» перакладаецца з лацінскай мовы як «залатая сярэдзіна». Фундаментальнае даследаванне вядомага літаратуразнаўцы і гісторыка Івана Саверчанкі, прысвечанае кніжна-пісьмовай культуры Беларусі XVII—сярэдзіны XVIII стст., — бадай, унікальная спроба зазірнуць у наша мінулае, а разам з тым і ў сучаснасць, з найбольш зручнага — віртуальнага — гледзішча. Акурат з «залатой сярэдзіны», якую вынайшлі нашы продкі, каб пазбегнуць у сваёй краіне крывавых міжканфесійных ці міжэтнічных канфліктаў, і якую яны берaглі для нашчадкаў.

Францішак Скарына, Сымон Будны, Рыгор Цамблак, Пётр Скарга, Іпацій Пацей, Язафат Кунцэвіч, Сільвестр Косаў, Лявон Карповіч, Кірыла Транквіліён-Стаўравецкі і — ужо з другога краю гісторыі — Яўхім Карскі, Аляксандр Весялоўскі, Аляксей Сабалеўскі, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Мікола Улашчык, Мікола Грынчык, Віктар Дарашкевіч, Уладзімір Кароткі, Юры Лабынцаў, Адам Мальдзіс... Не ўпускаючы анічога і анікога з вышэйпералічаных і многіх іншых пісьменнікаў сярэднявечча, навукоўцаў мінулага і цяперашняга стагоддзяў, выкарыстоўваючы найсучаснейшую методыку даследавання, прыводзячы новыя факты і высоўваючы свежыя ідэі, медыявіст Іван Саверчанка аказваецца насамрэч медыятарам паміж дзвюма беларускімі эпохамі і культурамі — той, што калісь адбылася і спраўдзілася, і той, што сёння адчайна спрабуе паварнуць гістарычны цягнік у свой — беларускі — бок.

Балазе, і даводзіць аўтар «Aurea mediocritas», што залатая сярэдзіна — гэта тое, да чаго і павінна імкнуцца спраўдзі цывілізаваная дзяржава, дбаючы перш-наперш пра ўнутраную гармонію паміж рознымі сацыяльнымі, этнічнымі, канфесійнымі і наогул культурна-гістарычнымі станамі. Залатая сярэдзіна — гэта тое, да чаго прыйсці можна толькі з дапамогай розуму, інтэлектуальных і духоўных пошукаў, а не шляхам таннай эмацыйнай апеляцыі да меркантыльных чыннікаў і тым больш не шляхам адкрытага дыктату з боку ўладаў. Залатая сярэдзіна — гэта тое, што калісьці было ўжо знойдзенае. Сцверджанае. І забытае. Самімі ж намі.

**Мікола РУМ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 579 Нумар падпісаны ў друк 02/08/99 (15:00) Наклад — 16.440